Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!

# ЧЫРВОНААРМЕЕЦ

БЮЛЕТЭНЬ ПАЛІТЫЧНАГА АДДЗЕЛУ 33-й СТРАЛКОВАЙ ДЫВІЗІІ.

№ 7 — Нядзеля 29 верасьня 1929 г. — № 7

# ЗАГАД

## 33-й стралковай тэрытарыяльнай дывізіі

28 ВЕРАСЬНЯ 1929 г. — № 76 — МАГІЛЕЎ-БЕЛАРУСКІ

Закончыўшы дывізыйныя і усесаюзныя манэўры, дывізія зьвяртаецца на свае зімовыя кватэры.

Абстаноўка па працягу манэўраў патрабавала вялізарнай напруджанасьці усіх сіл байцоў і начальніцкага складу для пасьпяховага разьвязаньня баявых задач, пастаўленых перад дывізіяй.

У гэтай складанай і цяжкай абстаноўцы чырвонаармейцы дывізіі паказалі высокую палітычную сьвядомасьць і дысцыплінаваcьць, выключную вынослівасьць і добрую тактычную падрыхтаванасьць.

Начальніцкі склад, не пакладаючы рукі, працаваў над падвышэньнем баяздольнасьці частак.

Дывізія ў цэлым выйшла з манэўраў моцнай, надзвычайна добра згуртаванай.

Віншуючы байцоў дывізіі з пасьпяховым сканчэньнем манэўраў, камандваньне дывізіі абяшчае падзяку усяму чырвонаармейскаму і начальніцкаму складу дывізіі і заклікае да далейшай работы па узмацненьні баявой моцы нашай дывізіі.

Камандзір дывізіі ГЕРАСІМАЎ

Ваенком дывізіі ЗЕЛЬДОВІЧ

Нач. штаба МАЛЫШКІН

## ДАКЛАДАЮ



манэўры прайшлі пасьпяхова!

## Наркамваенмору т. Варашылаву

Тав. Нарком! Учора скончыліся манэуры 33 стр. дывізіі. Нягледзячы на іх цяжкасьць—настрой у байцоу і камандзірау бадзеры.

Зараз мы праводзім (на днеуцы) палкавую канфэрэнцыю па сац. спаборніцтву, дзякуючы якому наш 99 стр. полк дасягнуу вялікіх посьпехау. З нецярплівасьцю чакаем мы уступленьня у Беларускія манэуры.

Вітаючы Вас і у Вашай асобе ЦК УсеКП[б] і РВС СССР—ад імя байцоу і кампалітскладу палка, запэуніваем, што з задачамі, якія ускладаюцца на нас, справімся. Парукай гэтаму—шырока разгорнутае сац. спаборніцтва і найлепшыя адносіны байцоу да вучобы.

Перадайце ЦК УсеКП(б), ЦВК СССР, што наш 99 полк упауне баяздольны і гатовы да бою.

Няхай жыве партыя Леніна!

Няхай жыве РВС СССР!

ПРЭЗЫДЫУМ КАНФЭРЭНЦЫІ

## Менск, ЦК КП(б) і ЦВК БССР

(З тэлеграмы канфэр. 99 п.).

Баявое чырвонаармейскае прывітаньне ЦК КП[б]Б і ЦВК БССР ад байцоу і камандзірау 99 стр. палка. Манэуруючы ва умовах надзвычайнай напруджанасьці міжнароднага становішча, мы, пад кіраунiцтвам палкавой партыйнай арганізацыі, аддавалі і аддаем усе нашы сілы і здольнасьці на найлепшае правядзеньне манэурау.

Посьпехі, якіх мы дасягнулі, даюць права заявіць, што наш полк гатовы па першаму закліку сьмела і бадзера рынуцца у бой супроць сусьветнай буржуазіі, за сусьветную дыктатуру пралетарыяту.

Няхай жыве наш кіраунік—Ленінская Камуністычная Партыя!

Няхай жывуць рабочыя і працоуныя сяляне Беларусі!

Няхай жыве Чырвоная армія—абаронца межау СССР!

ПРЭЗЫДЫУМ КАНФЭРЭНЦЫІ.

# Манэуры і зборы скончыліся

## РАСПАЧНЕМ ПАМІЖЗБОРАВУЮ ПРАЦУ

Вялікімі манэўрамі скончыліся зборы дывізіі. Чырвонаармейцы пераменнага складу ідуць да хаты, на фабрыку ды на сельскую гаспадарку. Але-ж яны застаюцца чырвонаармейцамі сваёй часьці і павінны выконваць свае вайсковыя абавязкі.

Трэба быць перадавым грамадзянінам у вёсцы, пачынальнікам яе калектывізацыі, правадніком усіх мерапрыемстваў партыйнай ячэйкі вёскі.

Праз ячэйку ТСА-Авіяхіму, праз гурток вайсковых ведаў, праз вайсковы куток у хатачытальні трэба абнаўляць свае вайсковыя веды і набываць новыя.

Пераменьніку трэба дапамагаць ваенізацыі сваіх таварышоў па весцы ці па фабрыцы. Расказаць пра манэўры, пра ваенную небясьпеку, уцягнуць сябраў у ваенныя гурткі, дапамагаючы працаваць ячэйцы ТСА-Авіяхіму, усё гэта можа зрабіць кожны з тых, хто быў на зборах.

Кожнаму пераменьніку будзе дадзена заданьне, якое ён мусіць выканаць паміж зборамі. Калі яно будзе давацца цяжка, трэба зьвярнуцца за дапамогаю да камандзіра пераменьніка ці ў свой полк.

А самае галоўнае—трэба, каб кожны трымаў моцную сувязь са сваёй ротаю. Трапіў у горад, зайдзі ў сваю роту; напішы ліст камандзіру: дашлі допіс у палкавую газэту і г. д. Праз моцную сувязь да сваёй часьцю здолеем наладзіць паміжзборавую працу на весцы і на фабрыцы.

Каб лепш наладзіць паміжзборавую працу, трэба і яе праводзіць пад лёзунгам сацыялістычнага спаборніцтва.

Хай кожная рота вызначыць некалькі практычных пунктаў, якія і возьмецца выканаць як мага лепш, выклікаўшы другую якую небудзь частку на спаборніцтва.

## Будзем будаваць калгасы

Чырвонаармеец Буланенка з 6 роты 98 палка яшчэ з манэўраў паслаў такі ліст да дому:

«У арміі мы узмацняем абарону краіны, а вы тамака у вёсцы абавязаны падтрымліваць дзяржаву; здаць хлеб у кааперацыю, падпісацца на пазыку індустрыялізацыі, распачаць арганізацыю калгасу і выклікаць суседзей на гэта».

Падобныя-ж лісты пісалі і іншыя чырвонаармейцы 6 і 2 роты.

А цяпер, пасьля збораў, трэба гэтыя лісты пратварыць у жыцьцё.

Як мы працавалі на манэўрах, так папрацуем і над арганізацыяй калгасаў! Ак.



* * *

Магілеўскі Акруговы Савет ТСА-Авіяхіму вітае вайсковыя часткі дывізіі з добрым скончэньнем баявога экзамену манэўраў.

Няхай жыве камуністычная партыя бальшавікоў, якая кіруе Чырвонай арміяй, кіруе нашым сацыялістычным будаўніцтвам.

АКРСАВЕТ ТСА-АВІЯХІМУ.

* * *

Тэрармеец! На зборах дывізіі ты даведаўся, што антысэмітызм — гэта вылазка кулакоў і капіталістых супроць нас.

Растлумач гэта і на весцы. Бі па антысэмітызму!

## Кожны пераменьнік павінен быць пісьменным.

Сярод пераменьнікаў есьць шмат няпісьменных. Для іх у зімку будуць арганізаваны заняткі па ліквідацыі няпісьменнасьці пры вясковых школах ды лікпунктах.

Леташняй зімою некаторыя пераменьнікі адхіляліся ад гэтых заняткаў.

Трэба каб цяпер гэтага ня было.

Хай кожны пісьменны пераменьнік штурхае свайго няпісьменнага таварыша да наведваньня школы.

Няпісьменны чырвонаармеец — сорам для часьці і радасьць ворагу.

ЯЗЭП.

## Пераменьнікі камуністы і камсамольцы, не забывайце сваю часьць

Шмат хто з партыйцаў і камсамольцаў пераменнага складу 99 палка летам амаль зусім не бывалі у сваім падзеле.

Праз гэта яны адрываюцца ад ваеннага жыцьця і перад зборамі губяць шмат сілы, каб пазнаеміцца з усімі навінамі.

Трэба ім наведываць нашыя партсходы, ды нарады, а партячэйкам паведамляць пра сходы і пераменны партсклад. В.

# Манэўры пацьвердзілі, што Чырвоная армія вырасла і ў баявых і ў тэхнічных адносінах

## Бярэце прыклад

Прайшоўшы пад дажджом 32 кілёметры, 8 рота, прыдадзеныя да яе батарэя і 3 ўзвод 3 кульроты занялі пазіцыю.

Нягледзячы на стомленасьць, загад аб неабходнасьці iсьці займаць Рагачэў байцы сустрэлі з вялікім уздымам і энтузыязмам.

Камандзір 3 батальёну мае на ўвазе адзначыць гэты прыклад на разборы.

Сумар.

## Каля посу «сініх»

.. А 4-ай гадзіне, 18-га, сапроце загаданьне: „справіць дарогі і масты дзеля руху артылерыі і абозу галоўных сіл".

Калена сапераў рушылася, каб агледзіць месца работ.

Перайшлі лясок. Паказаўся наш разьезд, які павед міў, што на мосьце „супраціўнік", і ад'ехаў у тыл.

Разьведка нашага боку адкінула «супраціўкіка» і хутка рукамі сапераў слабыя часткі мосту замяняюцца моцнымі, сучком закідваюцца каўдобіны, вырастае пласт зямлі.

Праз 2-3 хвіліны натуральны вучастак быў падрыхтаваны для пераправы артылерыі і абозу.

ЦІШКОЎ.

## *НЕ РАЗЬЛІЧЫЎ*

Памкамузвод 2 стр. роты т. Бабкоў павёў сярод чырвонаармейцаў агітацыю:

„Манэўры—справа не патрэбная бо яны нічога не даюць, а толькі грошай на іх шмат трацiцца".

Ен не разьлічыў, што байцоў на гэтую вудачку ня возьмеш, і праваліўся. Байцы так асадзілі Бабкова, што яму ня было куды дзявацца.

Ну, т. Бабкоў, можа зараз пасьля „узбучкі" вы зразумелі карысьць манэўраў?...

СТРАЛОК.

# З дывізійных манэўраў

## ПРЫКЛАД ВЫНОСЛІВАСЬЦІ

Дождж. Хляба... Усе прамоклі. Не гледзячы на гэта, чырвонаармейцы 1 кульроты, уяміўшы баявую задачу, абвяшчаюць сац. спаборніцтва на лепшую маскіроўку і акапваньне.

Вынікі, па водгуках камандаваньня, найлепшыя.

Астатнім чырвонаармейцам трэба павучыцца вынослівасьці і вялікай сьвядомасьці ў кулямётчыкаў 1 кульроты.

ВАСЬКА.

## САМАКАТЧЫКІ НА МАНЭЎРАХ

Магілеўскі ТСЯ-Авіяхім у манэўрах Чырвонае арміі ўзяў практычны удзел. Ен выставіў каманду самакатчыкаў дзеля сувязі ў ліку 13 чалавек.

Іх работа на манэўрах па сувязі праходзіла у вельмі цяжкіх умовах (машыны свае былі дрэнныя, езьдзілі часамі, уночы). Аб тым, як самакатчыкі выканалі ускладзеныя на іх абавязкі, яскрава гаворыць атрыманы водгук пакору 16. У водгуку гаворыцца:

— „У сапраўднай баявой абстаноўцы пасольш гэткіх каманд з гэткім складаецца каманда, прымаўшая удзел у манэўрах".

Апроч таго, добрыя водгукі атрымалі паасобныя самакатчыкі.

27-га верасьня адбылася нарада каманды самакатчыкаў, на якой падагулены вынікі і абмяняліся падумкамі.

Нарада пастанавіла дабраахвотна уступіць у шэрагі Далека-Усходняй арміі.

## У ПАДАРУНАК БАЙЦОМ

Чырвоныя партызаны з пасёлку „Могучы" паднесьлі у падарунак чырвонаармейцам 93 палку 6 яшчыкаў яблык.

— Няхай замацоўваецца шчыльная сувязь частак нашай непераможнай Чырвонай арміі з працоўным насельніцтвам", —заявілі партызаны, у ліку 10 чалавек.

Пау—у.

## Далі адпор

Прамокшы, адзін з чырвонаармейцаў 1 кульроты пачаў гаварыць сваім таварышам: «такія дні, як сёньня, адымаюць ад чалавека 100 проц. яго сілы.

Чырвонаармейцы, добра разумеючы неабходнасьць манэўраў, далі яму такі адпор, што ён адразу-ж «сеў» і змоўк.

Так і трэба яму.

Вінцік.

## У сапераў.

— Цяжка будзе нам у паходзе і на тактычных занятках,—казалі чырвонаармейцы асобнае сапроты перад выходам на манэўры.

Але практыка паказала іншае.

У першы дзень прайшлі 27 кілемэтраў разам з 99 палком, ні на крок не адстаючы.

На занятках-жа ужываліся з посьпехам усе віды маскіроўкі.

МАПАЛіС.





У ЧАС АДПАЧЫНКУ

## За ажыцяўленьне нацпалітыкі!

### Чаму ня выконваеце пастанову?

Пастанова партбюро 98 палка гаворыць аб тым, што усю агітацыйную працу трэ' праводзіць на беларускай мове. Партыйцы, уладаючыя белмоваю, павінны ужываць яе у штодзенным жыцьці і быту.

На жаль, гэтую пастанову ня усе выконваюць.

Вельмі часта здараецца, што на сходзе —яшчэ туты-сюды, імкнуцца гаварыць па беларуску. А вось „за кулісамі", у звычайнай гутарцы, белмовы і не пачуеш...

Яшчэ далека не беларусізаваны „ільлічоукі".

Трэба паклапаціцца аб пунктоуным выкананьні пастановы партбюро!

САБАЛЕНКА.

## Кулакі распальваюць антысэмітызм

У 2 кульроце 98 палка Канаплёў Кірыла агітуе: „нас заганялі зу ім, а вось жыды дык толькі езьдзяць на павозках".

Хто-ж такі Канаплёў? Ён абкладзены індывідуальна, падатку плоціць звыш 100 рублёў, яму і манэўры ня вельмі падабаліся. Вось такія тыпы і распальваюць нацыянальную варожасьць сярод тэрармейцаў.

№—СКІ.

## Антысэмітызм псуе нашую роту

Нашая 3 кульрота 99 палка ня гледзячы на цяжкія умовы паказала на манэўрах, што умее ваяваць ведае, як біць і каго біць з кулямётаў. Але ёсьць у нас яшчэ антысэмітызм, што псуе нашую роту. Зьнішчым у сябе гэтую старарэжымшчыну!

КАЗЛОУСКІ.

### *РЭДАКЦЫЯ АДКАЗВАЕ*

СТАРШЫНІ ГАСП. РОТЫ 98. Ваш допіс накіраваны у частку дзеля расьследваньня і прыняцьця адпаведных мер.

ВАЙТОВІЧУ Е. „Наши доспехи"—спазьнілася.

# ЗАГАД

## 33 СТРАЛКОВАЙ ТЭРЫТАРЫЯЛЬНАЙ ДЫВІЗІІ

28 ВЕРАСЬНЯ 1929 г. № 75 г. МАГІЛЕУ БЕЛАРУСКІ

Дывізійны бюлетэнь „Тэрармеец" у часе манэурау з гонарам выканау сваю задачу — дапамагаць камандваньню і палітаддзелу дывізіі мабілізаваць масу чырвонаармейцау на лепшае правядзеньне манэурау, выкрыць недахопы баявое вучобы, паказаць лепшыя прыклады дзеяньня чырвонаармейцау і асобных падзелау

Праз старонкі „Тэрармейца" вайскораўская арганізацыя дывізіі паказала сваю здольнасьць да работы ва умовах баявое абстаноукі, забясьпечыушы сваім удзелам у бюлетэні яго карысную працу.

Адказны рэдактар „Тэрармейца" т. Самахвалау і тэхнічны рэдактар т. Гольдшварц узнагароджваюцца за добрую службу каштоунымі падарункамі.

Дывізійнаму вайскарарганізатару т. Сень і усім вайскорам ад імя службы абвяшчаецца падзяка.

Увесь калектыу „Тэрармейца": карэктар Лявонны, наборшчыкі: Кокін, Марковіч, Ерузалімчык; друкар Шэйнін; фальцоушчык Юдкевіч і шофэр Казянкоу узнагароджваюцца кожны адрэзам на летні гарнітур.

Загад абвясьціць у „Тэрармейцы".

Камандзір дывізіі ГЕРАСІМАУ

Вайсковы Камісар ЗЕЛЬДОВІЧ.

Начштаба МАЛЫШКІН.

## „Сувязь" з вёскаю..

БЫВАЕ І ГЭТАК..

Аднойчы прышлося мне атрымліваць прадукты. Гляджу—стаіць наш чырвонаармеец тав Самусёў і трымае сувязь.. з гаспадарскімі яблыкамі. Поуную шапку набраў без дазволу ды гаварышоў частуе.

Пытаюся: якое вы роты? А ён у адказ:—6-ае роты, прозьвішча—Чыркін

У сапраўднасьці—Самусёў лічыцца ў 7 ай роце...

Ганьба байцом, падрываючым аўтарытэт нашай арміі!

КІРЭЕУ.

## Дапасаваўся да мясцовасьці

### АД КАГО МАСКІРОУКА?!

18 га верасьня тав. Марочкін на полі бою „замаскіраваўся".. Але не ад супраціўніка, а ад свайго-ж камандзіра, дзеля таго, каб выспацца...

Заснуў т. Марочкін так моцна што ня ўчуў каманды.

Потым, калі яго разбудзілі, ён спрасоньня „сэканоміў набой: стрэліў у пчалу на галіне.

Эх, вы, та-ва-рыш Марочкін!..

Ж.

Адказны рэдактар — А. САМАХВАЛАУ.